## ДОБРЫЯ ВЕСТКІ

(Канец)

эксплёатацыі гэтых народаў, — не павінна праяўляць ніякай спагады для вызваленьцых імкненьняў гэтых народаў. Амэрыцы патрэбны „моцны жандар” народаў у Крамлі, каб ён сваёю сілаю мог трымаць у шаху й страху ворага Амэрыкі № 1 — Нямеччыну. Калі-б народы савецкай імпэрыі вызваліліся, крамлёўскі жандар адразу згубіў-бы сваю пагрозьлівую сілу. Таму ніякой спагады ані патураньня савецкім паняволеным народам, быць не павінна, асабліва-ж, — барані Бог! — ніякой помачы.

Гэткая цынічная, брутальная ды наскрозь амаральная палітычная канцэпцыя мела яшчэ нядаўна й шмат сваіх прыхільнікаў. Мае, хоць і менш, іх і сяньня. Кніга Бэрнгэма із сваім разьлікам не на брутальную моц імпэрыяльнага жандара народаў, а на традыцыйную амэрыканскую веру ў тое, што дух волі ды дэмакрацыі раней ці пазьней мусіць перамагчы ды пераможа ўва ўсім сьвеце, ды што гэта адзіная магчымая ўмова трывалага супакою ды будучага культурнага й гаспадарчага дабрабыту ўсяго сьвету, розьніцца кардынальна із зусім неамэрыканскім духам кнігі папярэдняй.

Паколькі гісторыя сяньня дае ЗША змогу пераняць палітычнае правадырства над усім сьветам — калі патрапіць яго толькі ўзяць ды утрымаць — дык такая эвалюцыя амэрыканскай палітычнай думкі — факт вельмі важны й пацяшальны.

Гэтая добрая вестка — знак на будучыню для самой Амэрыкі, для вольнага сьвету, і, асабліва, для тых народаў, якія сяньня на сваіх плячох нясуць увесь цяжар крывавага бальшавіцка-маскоўскага паняволеньня.

—о—

### ПСЫХАЛЯГІЧНАЯ БОМБА
(канец)

Трэба аддаць справядлівасьць адно мужнаму Адэнаўэру, які, ня маючы ніякае арміі, не пабаяўся кінуць вострыя словы па адрысу забойцаў, належна ацаніў адвагу сваіх паняволеных суродзічаў і падтрымаў іхнюю надзею на хуткае вызваленьне.

І мы верым, што псыхалягічная бомба за зялезнай заслонай ужо не перастане дзеяць і ўрэшце разарве путы няволі, ды адначасна вызваліць ад дзіўнае боязі розных слабадухіх заходніх палітыкаў.

**С. Клім.**



**М. Кургановіч.**

# Камунізм нельга паўстрымаць - яго трэба зьнішчыць

**КАНЧАЛЬНАЯ МЭТА — СВАБОДА УСІМ НАРОДАМ.**

(Заканчэньне).

Палітыка вызваленьня народаў ня можа праводзіцца накш, як **прызнаючы** ПРАВЫ САМААЗНАЧЭНЬНЯ І ТАРНУЮЧЫ ГЭТЫЯ ПРАВЫ ДА УСІХ НАРОДАУ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ У МЕЖАХ СССР, падчыркваае Джэмс Бэргэм у сваёй кнізе „Паўстрыманьне ці вызваленьне”.

„Калі вызваленьне запраўды прывядзе да падзелу сучаснае бальшавіцкае імпэрыі на колькі дзесяткоў цалкам незалежных, сувэрэнных і раўнапраўных дзяржаваў, кажа Бэрнгэм, дык будзе адхіленая й сучасная загроза бясьпекі сусьвету, бо Эўразіяй кіруе адзін агрэсыўны апарат. Навет звышбалканізацыя была-б таму дасягненьнем, хоць трэба прызнаць, што яна мела-б і свае мінусы. З прычыны згаданага падзелу, ня было б прыкладам магчыма зарганізаваць гаспадарку цэнтральнае і ўсходняе Эўропы. У гэтых краінах стварылася-б палітычная няпэўнасьць, у якой безьліч дробных канфліктаў стала выклікала-б вайну ці пагрозу вайны. І найпэўнейшым было-б тое, што самастойнасьць вызваленых народаў ня трывала-б там доўга”.

Гэткія вынікі, — працягвае аўтар, — маглі-б быць адхіленыя дабраахвотным задзіночаньнем паасобных меншых гаспадарстваў, уніяй Цэнтральнае і Усходняе Эўропы, а таму ЗША, падтрымліваючы палітыку вызваленьня народаў, павінна ўжо ад пачатку падтрымліваць і думку, што вызваленыя народы мусілі-б задзіночыцца ў нейкія свае уніі, якія ў свой чарод далучыліся-б да вялікае дзяржавы задзіночанае Эўропы. Але, дадае Бэрнгэм, ня справа США займацца драбніцамі й плянаваць, якія вызваленыя дзяржавы павінны ўваходзіць у вуніі ці якія павінны быць нутраныя умовы фэдэрацыйнасьці.

У сувязі із гэтым Бэрнгэм напамінае, што ўжо цяпер адбываюцца спрэчкі у справе гэтых пытаньняў. І найвастрэйшыя спрэчкі выклікае ў шэрагах выгнаньнікаў цьверджаньне расейскіх эмігрантаў, што ўсе гутаркі аб поўнай незалежнасьці ўсім народам ёсьць „сэпаратызмам”, які расейскі народ лічыць „калечаньнем свае дзяржавы”.

Падчыркнуўшы, што амэрыканцы павінны пазьбягаць слуханьня „пракоаў нэомаскоўскага імпэрыялізму”, а таксама і вельмі цеснай лучнасьці із тымі, якія прапаведуюць скрайны анты-русызм, Бэрнгэм зазначае, што амэрыканцам зусім няма патрэбы ўжо цяпер апрацоўваць падрабязныя пляны падзелу СССР, і што рабіць гэта было-б бязглуздзіцай.

Аднак, ён папераджае, што актыўная палітычная вайна немагчымая наагул і тады, калі ЗША ня вырашаць, няхай у аснаўных прынцыпах, гэтага пытаньня. На ягоную думку, гэткім аснаўным прынцыпам можа быць толькі адзін: СВАБОДА УСІМ НАРОДАМ. — „Прыгэтым, кажа Бэрнгэм, „было-б смешна азначыць змаганьне супраць камунізму, як змаганьне за ўтрыманьне Расейскай імпэрыі, і, калі расейцы, якія цьвердзяць, што яны супраць камуністых, не пагаджаюцца прызнаць права свабоды й нерасейскім народам, дык трэба іх спытаць, па якім баку яны стануць, калі надыйдзе вырашальны момант”.

Прыхіленьне да палітыкі, канчальнай мэтай якой ёсьць свабода ўсім народам — ня толькі тэарэтычны абавязак, але неабходнасьць, у выпадку, калі заходнія дзяржавы хочуць захаваць і сваю свабоду. „Амэрыканцы, французы, немцы, індусы й японцы памыляюцца, калі думаюць, што вызваленьне народаў зьяўляецца нейкім падарункам, які яны далі-б палякам, кітайцам ці й самым расейцам, што трапілі ў палон”.

— „Не, — кажа ён, — справа йдзе аб нашыя собскія шыі. Калі мы хочам захаваць свае свабоду й жыцьцё, дык перадумовай гэтага ёсьць разгром бальшавіцкае імпэрыі, прынамсі хоць частка-вы разгром, а гэта можа быць асягненае толькі й адзіна вызваленьнем народаў”.

Ён прызнаецца, што згаданае канчальнае мэты, напэўна, ня будзе магчымым асягнуць без вайны. Але тым, хто гэтак моцна баяцца вайны, на часе будзе прыпомніць, што пасьля Другое Сусьветнае вайны ваенныя сутычкі із страляніна працягваюцца нясупынна так ці йнакш. Тым, хто палохаецца „справакаваць” Крэмль, ён прыпамінае, што й бяз „правакацыяў” бальшавікі пачалі войны ў Грэцыі, Іране, на Малаях, Філіпінах, у Бірме, Індыі, Бэрліне, Індакітаі і, нарэшцэ, у Карэі. У гэтых войнах антыбальшавіцкія сілы ужо маюць сотні тысячаў людзкіх ахвяраў „Лічба гэтых палеглых змагароў. дадае ён, сягане мільёнаў, калі мы, як і паінна было-б рабіцца, далічым сюды й ахвяры бальшавізму унутры бальшавіцкае імпэрыі”.

Дагэтуль у ЗША успыхвала ад часу да часу жаданьне рабіць нешта паважнае ў той ці іншай справе, але кажны раз, амэрыканцы неўзабаве запыняліся й вельмі дзівіліся, чаму гэта іхныя саюзьнікі ў Эўропе і Азіі гэтак неахвотна слухаюць іх і гэтак моцна палохаюцца наважных дзеяньняў.

Найлепшы адказ на гэтае пытаньне, — на думку Бэрнгэма, — трэба шукаць не ў саюзных дзяржавах, але ў самых ЗША — таму што ЗША самы дагэтуль ясна ня вырашылі, чаго яны хочуць, а таму й ня могуць выклікаць веры ў сваіх слабейшых хаўрусьнікаў. Да сяньня, — кажа ён, — ЗША не далі станоўкага яснага адказу на самыя паважныя пытаньні: чаго-ж хочуць ЗША, якая-ж іхняя канчальная мэта?

— „Ці ЗША запраўды наважыліся зьнішчыць, спыніць бальшавіцкае панаваньне, ці яны й надалей гатовыя дагаворвацца з Крамлём? Калі яны згодныя дагаварыцца, тады — чым коштам?” — пытаецца Бэрнгэм, — і паўтарае, што на гэтыя пытаньні трэба адказаць ня толькі дэклярацыямі, але й чынамі. Пакуль Амэрыка сама ня вырашыла, што рабіць, яна ня можа патрабаваць, каб меншыя саюзьнікі паставілі канчальны крок у выбары паміж дзьвюма вялікімі сіламі ў сьвеце. Пакуль ЗША канчальна не наважыліся, зусім зразумела, што ў меншых і большых народах маюць вялікую вагу гэткія дэмагогі, як Бэван у Ангельшчыне, Нэру ў Індыі або сацыял-дэмакраты ў Заходняй Нямеччыне.

ЗША маглі-б шмат лягчэй наважыцца, — кажа Бэрнгэм, — калі-б амэрыканцы нарэшце зразумелі запраўдную прыроду бальшавізму, ключ да чаго трэба шукаць у аксыёме самых бальшавікоў, каб яны зразумелі, што ані перамоваў, ані кампрамісаў у справе ідэяў бальшавікоў быць ня можа, што іх можна або прыняць або адкінуць.

„Вы ня можаце пагадзіць жыцьцё й сьмерць, папераджае Бэрнгэм. Есьць некаторыя пытаньні ў жыцьці, на якія адказам можа быць толькі яснае, станоўкае **так,** або ня менш станоўкае **не”.**

(Канец)

# Нашыя новыя саюзьнікі

Пасьля заіснаваньня г. зв. Парыскага Блёку, у які ўвайшлі прадстаўнікі ад шэсьцёх нацыянальных цэнтраў, у Мюнхэне цяпер праводзіцца канфэрэнцыя аб стварэньні Міжнацыянальнага Антыбальшавіцкага Каардынацыйнага Цэнтру, аб чым мы, зрэшты, шырэй пішам у адмысловым артыкуле.

У вольны ад паседжаньняў і перамоваў час, з мэтаю ўзаемнай інфармацыі ды азнаёмленьня сяброў Парыскага Пагадненьня із нацыянальна-вызвольным змаганьнем паасобных народаў — удзельнікаў Пагадненьня, адбываюцца даклады на палітычныя й гістарычныя тэмы.

Думаючы, што і для ўсяго нашага грамадзтва будзе цікава бліжэй пазнаць нашых сяньняшніх саюзьнікаў падаем кароткі зьмест першага дакладу, сп. Навасардзяна, з гісторыі й працы найбольшае армянскае палітычнае партыі Дашнакцютун.

Заснаваная была гэтая партыя яшчэ ў 1890 годзе. З гэтае даты яна цалкам ахапляе усё жыцьцё армянскага народу. Няма пядзі зямлі ў Арменіі, не палітай крывёю сяброў згаданае партыі, г. зв. дашнакоў, а па ўсім сьвеце раскіненая армянская эміграцыя ушаноўвае памяць трох апосталаў партыі Дашнакцютун — Сымона Завар'яна, Растома Заварыяна й Хрыстафора Макаэліяна — заснавальнікаў згаданае партыі.

Што партыя Дашнакцютун вельмі дзейная, ведалі ня толькі ў Арменіі, але і ў Расеі, ды за межамі, Цэнтр ейны быў у Жэнэве, у Швайцарыі. Расейскія рэвалюцыянэры высака цанілі яе, бо сябры ейныя мала гаварылі, але шмат рабілі. Каб належна зразумець згаданую партыю, трэба добра пазнаць і армянскі народ ды ягоную гісторыю. Армянскі народ — адзін з найстарэйшых. Гэта першы народ, які прыняў хрысьціянства, як дзяржаўную рэлігію. Расейцы прынялі хрысьціянства блізу шэсьць вякоў пазьней за армянаў ад Візантыйскае царыцы Анны, якая была армянкай. У 412 г. у Арменіі быў створаны свой альфавіт і неўзабаве біблія была пераведзеная на армянскую мову. Мова перакладу адзначаецца вялікім прыгаством і багацьцем. Ён найлепшы з усіх пазьнейшых перакладаў гэтае сьв. кнігі на шматлікія мовы сьвету. Мае Арменія й славуты сьцяг гісторыкаў. Першым зь іх быў армянін, жыхар Пэрсіі, Фірдусі, які напісаў ведамы твор Шах Намэ тысячу год таму. У архітэктуры Сабору сьв. Пятра ў Рыме ёсьць шмат элемэнтаў армянскага будаўніцтва. Шматлікія гістарычныя помнікі сьветчаць аб Арменіі. У 5-тым стагодзьдзі Армянаў было 5 мільёнаў. Сяньня іх ня больш 4-ох мільёнаў, зь якіх толькі трэцяя частка жыве ў сваёй бацькаўшчыне Арменіі, а рэшта — раскіданая па ўсім сьвеце.

Перад стварэньнем партыі Дашнакцютун у армянаў было да 20 паасобных рэвалюцыйных групаў. У 1890 г. ім удалося сабрацца ў Тбілісі, дзе яны й задзіночыліся. Само слова „дашнак” і значыць паармянску задзіночаньне. Праграма новастворанай партыі была вельмі кароткая — змаганьне за вызваленьне Арменіі. Уся гісторыя партыі напрацягу год і ёсьць якраз гэткім змаганьнем, сьпярша за вызваленьне жорстка перасьледваных турэцкіх армянаў, а пазьней і за вызваленьне армянаў, паняволеных царскай Расеяй. У 1919 годзе на зьезьдзе ў сталіцы Арменіі Эрывані была абвешчаная дэклярацыя аб незалежнасьці Арменіі. Дэклярацыя гэтая цалкам увайшла ў праграму партыі Дашнакцютун. Клічам-жа ейным сталася: „Крывёю здабыць незалежнасьць радзімы”.

Партыя Дашнакцютун найбольш дысцыплінаваная й цэнтралізаваная партыя ў сьвеце.

Што чатыры гады адбываюцца зьезды партыйцаў з усяго сьвету, незалежна ад адлегласьцяў, прычым перадаваць свой голас іншаму сябру не дазваляецца. Кажны мусіць асабіста прысутнічаць на згаданым зьезьдзе, дзе выбіраецца й вышэйшы кіраўнічы орган — бюро партыі. Дагэтуль гэткіх зьездаў адбылося ўжо 15. Напрацягу чатырох год гэтае бюро не падлягае крытыцы, а пастановы ягоныя павінны выконвацца з вайсковай дысцыплінаванасьцяй.

Сяньня партыя мае шмат шырака разбудаваных і багатых арганізацыяў — Вярхоўнае кіраўніцтва, Чырвоны Крыж з безьлічай шпіталяў ды інш.

**В. Нануашвілі.**

# Ваенны патэнцыял паняволеных народау

Савецкі Саюз мае адзін козыр у сваіх руках, які й станецца галоўным сродкам змаганьня ў ягонай будучай ваеннай сутычцы з Захадам — гэта жывая маса собскае й акупаваных краінаў, якая будзе безаглядна гнаная на сталёвыя шэрагі супраціўніка.

Заладжваньне ўсіх нязьлічаных тэхнічных недахопаў кіданьнем у змаганьне вялізарных людзкіх масаў — стары, улюбёны й традыцыйны спосаб расейскага камандваньня. Дзякуючы вялікаму проценту паняволеных народаў у сваёй арміі, гэты мэтад зусім, з расейскага гледзішча, правільны, асабліва сяньня, у пару сыстэматычнага вынішчэньня згаданых народаў.

У будучай вайне безаглядное раскіданьне жывою сілаю будзе, бясспрэчна, тарнаванае Расеяй яшчэ шырэй, бо гэта будзе адзіная рэальная рэч, зь якое СССР скарыстае, часова займаючы Заходнюю Эўропу. Адначасна, гэта будзе й найвялікшым няшчасьцем народаў Захаду за ўвесь час іхнае навейшае гісторыі.

І гэта яшчэ адзін дадаткавы дзейнік, у выніку якога колькасьць палонных байцоў з Савецкае арміі значна павялічыцца раўнуючы да мінулае вайны.

**III. Рацыянальнае выкарыстаньне сілаў паняволеных народаў.**

Як-жа складуцца ўмовы найлепшага выкарыстаньня сілаў паняволеных народаў у выпадку збройнае сутычкі з Расеяй?

Адказ на гэтае пытаньне ня трэба разумець, як нейкі плян будучых ваенных дзеяньняў. Справа йдзе адно пра азначаньне тых жыцьцёвых пунктаў Расеі, уцягненьне якіх у змаганьне дасьць вынікі ўжо наскрозь палітычных памераў.

Кажны край мае нейкія прасторы, дзе месьцяцца, як гаворыцца, ягоныя жыцьцёвыя нэрвы, ці цэнтры, нагэтулькі важныя для ўсяе краіны, што зьнішчэньне, а навет адно пашкоджаньне якіх спрычыніцца да развалу ўсяго дзяржаўнага апарату згаданае краіны.

Гэткаю прастораю зьяўляецца для Расейскае імпэрыі трыкутнік Адэса — Астрахань — Тула. Згаданая прастора мае гэткае значаньне:

1. Вырашае аб каардынацыі акцыі паміж паасобнымі франтамі, а гэта — між Заходнім фронтам, фронтам Блізкога Усходу й фронтам Далёкага Усходу.

2. Ад моманту уваходу ворага на згаданую прастору, калі вораг гэты будзе йсьці ад паўдня з басэйну Чорнага мора (пры гэтым зусім непатрэбнае заняцьце ворагам усяе прасторы трыкутніка), Расея губляе панаваньне над усім басэйнам Чорнага мора, з Каўказам, Цэнтральнай Азіяй і Блізкім Усходам улучна.

3. Зьяўленьне ворага на згаданай прасторы спрычыніць Расеі гэткія эканамічныя шкоды:

— страту ўсяе прадукцыі нафты,

— страту 3/4 мінэральных запасаў Эўрапэйскае Расеі,

— страту 3/4 сельска-гаспадарскіх абшараў, якія даюць Расеі збожжа.

4. Прастора згаданага трыкутніка вяжа ў адно суцэльнае змаганьні ўсіх, бяз вынятку, паняволеных Расеяй народаў, як Украіны, Каўказу, Цэнтральнай Азіі, Уралу, а таксама й Беларусі.

Ад моманту перанясеньня ваеннае акцыі на гэтую прастору, пачнецца поўнае разьвіцьцё збройных сілаў паняволеных народаў. Ад гэтага-ж моманту галоўны цяжар чыннага змаганьня, а таксама й акупацыі прастораў, пакіненых Расеяй, можа быць пераняты паняволенымі народамі.

Як толькі вораг тутка зьявіцца, Расея будзе прымушаная неадкладна пакінуць усю Заходнюю й Цэнтральную Эўропу, а таксама і ўвесь Блізкі Усход. Гэткага раптоўнага й вялізарнага адступленьня немагчыма будзе правесьці ў парадку, плянава, бо ня стане ні сяродкаў камунікацыі, ні магчымасьцяў хуткае перагрупіроўкі.

Але прыгаданыя магчымыя ўдачы дасьць ворагам Савецкага Саюзу адно ўваход на савецкую прастору ад паўдня. Калі-ж здарыцца йнакш, прымусіць Расею пакінуць Заходнюю Эўропу або Блізкі Усход будзе цяжэй. Давядзецца стварыць і ў Эўропе й на Блізкім Усходзе вялікую перавагу жывых і тэхнічных сілаў і прымушаць доўгатрывалай акцыяй Расею да адступленьне крок за крокам. У апошнім выпадку Расея будзе мець магчымасьць змагацца й паволі адыходзіць плянава і ў поўным парадку.

У сувязі з прыгаданым устае пытаньне: „уся гэтая прастора была-ж ужо аднойчы ў руках ворага СССР у гады 1941-43, чаму-ж тады Расеі ўдалося шчасьліва выйсьці зь бяды?”

Спрычыніліся да гэтага колькі дзейнікаў:

1. У гады 1941-43 СССР меў толькі адзін фронт ваенных дзеяньняў.

2. Расея мела тады магутных саюзьнікаў і іхную неабмяжаваную матарыяльную дапамогу.

3. Палітычныя імкненьні СССР былі добра схаваныя пад маральнаю аўрэоляю Атлянтыцкае Хартыі ейных саюзьнікаў.

**IV. Ідэалягічны бок змаганьня.**

Напрацягу свайго змаганьня за панаваньне над сьветам Расея выкарыстоўвала шмат розных ідэяў. Сяньня яна выкарыстоўвае дзеля гэтае-ж мэты ідэі камунізму. Грамадзянам заходніх гаспадарстваў падсоўваецца зманлівы міраж розных асабістых карысьцяў, а ў калёніях выкарыстоўваюцца вызвольныя рухі тамтэйшых народаў. Супраць гэтага мэтаду Расеі можна змагацца толькі ейнаю собскаю зброяй. Зброюж гэтую патрапяць адвярнуць у ейны бок адно паняволеныя расейскім імпэрыялізмам народы.

На зманлівую мрою асабістае свабоды й дабрабыту у рамах СССР, народы гэтыя ўстойлівыя, дзякуючы самой-жа Расеі. А расейская рэкляма вызваленьня народаў якраз праз змаганьне з паняволенымі народамі й тэрор, тарнаваны ў дачыненьні да іх, — стаецца што-раз большаю для Расеі небясьпекаю.

Як і ў пару Першае Сусьветнае вайны, гэтак і ў часе Другое, усе паняволеныя народы змагаліся супраць Расеі. Кажны зь іх выяўляў здольнасьці й ахвоту да змаганьня яшчэ і ў тыя часы, калі „афіцыйныя” ворагі ня мелі ўжо даволі маральнае моцы, каб весьці змаганьне далей.

Сьвет вельмі добра памятае, якая была вартасьць нямецка-італьянскіх дывізіяў пад Сталінградам, што змагаліся там за нейкія няясныя, нявыразныя для іх мэты. Якая-ж непамерна большая была-б, раўнуючы да іхнае, вартасьць тэй самай колькасьці дывізіяў беларускіх, украінскіх, каўказкіх ці туркменскіх, што змагаліся-б на гэтай самай прасторы, маючы падтрыманьне ў собскіх краінах, у собскім фізычным бытаваньні?

І якія вынікі мог бы мець ход гэтае самае вайны, калі-б весьці

# БЕЛАРУСКІЯ СКОКІ

пулярных нашых танцаў **„Мяцеліца"** таксама, бяссумлеўна, паходзіць ад магічных заклінаньняў злога бога маразоў ды мяцеліцаў Зюзі.

Апрача згаданых чыста навукова-гістарычных рысаў, беларускія народныя скокі маюць і вельмі паважнае **этнаграфічнае значаньне,** якое ляжыць у іхнай **своеасаблівасьці** й **традыцыйнасьці.** Сьціплы й спакойны паводле свае натуры беларус, скачучы, быццам перараджаецца ў зусім іншага чалавека, выяўляе тую частку свае натуры, якая звычайна схаваная недзе ў глыбінях ягонае істоты й якую ён старанна хавае. Наглядальніку, які яго мала ведае, можа здацца, што беларус у танцы й беларус, якога ён пазнаў у штодзённым жыцьці — дзьве зусім розныя істоты. Бо паважны й спакойны беларус робіцца ў танцы вясёлым навет, гарэзьлівым. Блізу ўсе беларускія народныя танцы насычаныя гумарам, весялосьцяй, бадзёрасьцяй, ды маюць яшчэ й **прыпеўкі,** гэткія сакавітыя, што некаторыя зь іх і пісаць даводзіцца праз ..... Ёсьць у нас і адмыслова гумарыстычныя, камічныя танцы, як **„Мікіта"** — жарт над залішне пераборлівым дзяцюком, **„Гусар" — жарт над** маскалём-салдатам, **„Полька-Грасуха"** — жарт над занадта фарсістай харашухай ды інш.

Цяжкія працоўныя рухі набываюць у беларускіх народных танцах як „Бульба", „Шастак", „Талака", „Лянок" ды інш. лёгкасьць' вясёласьць, прывабнасьць. Тут выяўляецца імкненьне паказаць гэтак свомую беларусу рысу — працаздольнасьць, ахвочасьць, вялікую любасьць да працы.

Шэраг скокаў пабудованы цалкам на імправізацыі, на своеасаблівым спаборніцтве ў танцы, на здольнасьці прыдумляць розныя новыя, нечаканыя хвігуры й крокі. Гэткі, прыкладам, танец "Растрападка", дзе кажны скача, як хоча. **"Гняваш"** і улюблёная **"Лявоніха",** якая сталася клясычным беларускім танцам і налічвае да 100 згаданых народных хвігурных імправізацыяў, якія у бальшыні ужо набылі правы традыцыі. Уся якраз цікавасьць гэтага танцу ў тым, што ягоная аснова — **кола-круг,** дае ў сваіх разыходжаньня у бакі базьліч каляровых, разнастайных камбінацыяў ды варыяцыяў. Другім гэткім „клясычным" паводле свае прыгажосьці й багацьцю імправізацыйнага майстэрства зьяўляецца танец **"Крыжачок"** або **"Кружачок".** Калі „Лявоніха" пабудаваная на коле дык характэрная для "Крыжачка" хвігура — гэта **зорка,** якая меніцца ў дзясятках розных перакрыжаваньняў, зорных вузораў-праменьняў, што адыходзяць ад асноўнае зоркі ў розныя бакі.

Усе беларускія скокі, як мы ўжо казалі, глыбака асэнсаваныя. Беларусы ня скачуць, абы толькі скакаць. Таму, калі танец не зьвязаны з працоўнымі працэсамі, ён зьяўляецца абрадаваю **гульнёю, ігрышчам.** У гэтым зноў выяўляюцца старавечныя традыцыі нашага народу й ягоная вернасьць гэтым традыцыям. Згаданы ігравы характар беларускага народнага танцу, трэба думаць, стаўся аднэю з прычынаў таго, што Беларусы ведаюць толькі масавыя скокі, й чым больш у іх удзельнікаў, тым прыгажэйшы й калярытнейшы сам танец. Мне асабіста ведамы толькі адзін добры й пашыраны салёвы беларускі танец — **„Бычок",** які таксама захоўвае сувязь з працоўнымі момантамі беларускага жыцьця й зьяўляецца танцам пастуха із галоўнаю роляю, аддадзенай пастушай пузе.

Ігравы характар беларускіх скокаў падкрэсьліваецца яшчэ й манераю скакаць пад **сьпеў,** пад розныя прыпеўкі, куплеты, часта кароткія, ды затое вельмі сакаўныя.

Кульмінацыйнаю вяршыняю імпэтнасьці, тэмпэрамэнтнасьці беларускіх народных танцаў зьяўляюцца танцы **„Калаўрот",** а асабліва папулярная й улюбёная **„Мяцеліца".** Калі нашую „Лявоніху" можна назваць вузорам танцавальнае красы, дык „Мяцеліца" — гэта вузор эмацыяльнасьці ў мастацтве. У гэтым сэнсе яна можа сьмела спаборнічаць із танцамі найбольш гарачых паўдзённых народаў. Як сьветчыць і сам назоў — „Мяцеліца", гэта танец бураве́ю, імклівае завірухі, сьнежнае мяцеліцы. Неабходным рэквізытам гэтага танцу — белыя, даўгія ручнікі. Із усьцяж нарастаючым тэмпам скоку, гэтыя ручнікі ў руках танцораў даюць поўнае ўражаньне „хмельнае" сьнежнае віхуры.

Беларускі народны танец вельмі каштоўны з кажнага гледзішча — і з старадаўнага паходжаньня, з традыцыі, з багацьця мэлёдыяў і рухаў і із свае зьмястоўнасьці, з мастацкасьці формы й эмацыянальнасьці.

І таму тут, на эміграцыі мы не павінны забывацца аб разнастайнасьці й харастве нашага народнага танцавальнага мастацтва, а намагацца пры кажнай нагодзе адраджаць і паказваць яго.

**М. Куліковіч**

# ЯШЧЭ ЦЯЖЭЙШАЕ ЯРМО

**Няцікавыя пленумы камуністых Беларусі — Абыякавасьць камсамольцаў — Масква вымагае забясьпечаньня ўраджаю ўсімі сродкамі — У большасьці акругаў Беларусі ня выкананы пасяўны плян**

Цэнтральны камітэт камуністычнае партыі Беларусі, пасьля атрыманьня „рашэньняў" пленумаў усіх райкомаў, гаркомаў і абкомаў, таксама адбыў свой чарговы травенскі пленум. Як заўсёды апошнім часам, на ім нічога паважнейшага не адбылося й мінуў ён няцікава. На парадку дня было пытаньне аб кіраўніцтве працай камсамолу й сельска гаспадарчыя пытаньні: дагляд пасеваў, збор ураджаю й „загатоўка сельска-гаспадарчае вытворчасьці для наступнае восені і зімы".

Із спрэчкаў аб дзейнасьці **камсамолу** адзначым толькі, што цяпер ў камсамоле на Беларусі згуртавана ўсяго 319.743 моладзі. Гэтая лічба не задавальняе цэнтральны камітэт і камсамольскія кіраўнікі атрымалі вялікі „наганяй", а некаторыя й срогія папераджальныя вымовы. Аднак, асабліва характэрны тут той факт, што навет і гэтая незадавальняючая лічба „росту" камсамолу (да таго мусім адцеміць, што гэта найменшы лік у працэнтавым дачыненьні да агульнага ліку моладзі паміж усіх савецкіх рэспублікаў), як адзначана на пленуме, „хавае ў сваіх шэрагах рэшткі нацфашыстаўскае моладзі, якая прыкрыўшыся камсамольскімі пасьветчаньнямі, ня спыніла свае шкоднае дывэрсыйнае, наскрозь варожае нацыянал-фашыстаўскае працы". Гэтак падае бальшавіцкая прэса, а з вестак БІБ мы ведаем, што й згаданы лік бел. камсамольцаў, — гэта пераважна загнаная прымусова ў камсамол беларуская моладзь, якая зусім ня прыймае бальшавіцкае ідэалёгіі, апрача паасобных рэнэгатаў ды моладзі, што панаехала на Беларусь з Масквоўшчыны. Таму паданая лічба камсамольцаў у запраўднасьці не адказвае становішчу арганізацыі. Сакратар ЦК Кампартыі так проста й сказаў, што камсамол не замацаваўся арганізацыйна, што ў працы камсамолу поўна недахопаў, а камсамольцы ставяцца да „галоўных ідэалёгічна-палітычных пытаньняў абыякава". Лік-жа **захопленай,** па камуністычнаму выхаванай, адданай „партыі і ўраду" моладзі ў камсамоле зусім малы.

Цікавейшымі былі даклады аб **сельска-гаспадарчым становішчы** Беларусі. Хаця ў Беларусі сяньня апрацоўваецца прыблізна 2/3 ворыва але й для апрацоўкі гэтае часткі гоняў даводзіцца выганяць у поле ўсіх сялян, што засталіся пасьля чыстак і дэпартацыяў. Сёлета савецкая прэса Беларусі і пяць радыёстанцыяў надавалі асаблівую ўвагу й мейсца й пасяўной кампаніі. З практыкі назіраньня за дзейнасьцю бальшавікоў на акупаванй Беларусі можна сьцьвердзіць толькі тое, што новыя бальшавіцкія гаспадары хочуць у кажным выпадку забясьпечыць восеньскі ўраджай. Голад, які адчувалі папярэдняе зімы гарады ня толькі Беларусі, але й шмат якіх іншых частак СССР, які бальшавікі прабавалі палагодзіць „амністыяй", паніжэньнем цэнаў і адміністрацыйнымі рэформамі, змушае акупантаў за ўсялякую цану забясьпечыць гарадзкое жыхарства харчамі на наступную зіму. Але калі чалавек мае адну куртатую, старую, абарваную коўдру, дык заўсёды будзе так, што як ні накрывайся, голымі застануцца або ногі, або галава. Гэтак і тутка: турбуючыся аб харчох для работнікаў места, новыя, пасталінскія валадары накладаюць найцяжэйшае ярмо на калгасьнікаў. На Беларусі сёлета ў складзе трактарыстак было звыш 65% дзяўчат, а гарацьконьмі змушалі па чарзе й даярак, і сьвінарак ды іншых выканальніцаў „адмысловых заданьняў", якія навет звальняюцца ўзімку ад працы на лесанарыхтоўках. Трактарыстыя-ж працавалі прымусова ў дзьве зьмены, навет уначы.

Як-жа ўдалося камуністым загарацьды засеяць гоні акупаванае Беларусі? Згодна дадзеных перадавіцаў „Зьвязды", „Сов. Белоруссии" і „Калгасьніка Беларусі" ды афіцыйнае „зводкі", на 25. траўня с. г. плян засеву ня быў выканаы ні ў аднэй акрузе, хоць вясна сёлета была надзвычайна раньняя і пасьля кароткае хвалі пахаладаньня й невялічкіх прымаразкаў на пачатку траўня, надвор'е стаяла цёплае й вельмі спрыяльнае для сельска-гаспадарчых працаў. Найгорш пасеўныя працы выкананыя ў Віцебскай і Магілеўскай акругах, дзе нявыканана навет палова працаў паводле пляну, дзе органы партыі й саветаў „недапушчальна дрэнна падрыхтаваліся да пасяўной акцыі". Ня лепш, або адно крыху вышэйшыя проценты выкананьня пляну й у іншых акругах і толькі ў Берасьцейскай праца набліжаецца да выкананьня на 90%. **Нягледзячы на ўсе загады і ціск з гары, плян пасеваў ня выкананы** і, відаць, ужо й ня будзе выкананы цалкам нідзе.

**-віч.**

(Канец будзе)

# З Беларускага Жыцьця

**З БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ У ВІНІПЭГУ (КАНАДА)**

15-га травеня сёлета сябры беларускае калёніі ў Вініпэгу ў Канадзе бралі актыўны ўдзел у сьвяце „Canadian Citizenship Day". Сьвяточная урачыстасьць адбывалася ў будынку парляманту, з удзелам прадстаўнікоў ад 35-х нацыяў. Сьвяткаваньне вельмі добра ўдалося й пакінула прыемнае ўражаньне на ўсіх удзельніках.

5-га чырвеня беларусы Вініпэгу ўдзельнічалі ў парадзе з нагоды адкрыцьця „Red River Exhibition". Надвор'е ў дзень параду было цудоўнае й дзясяткі тысячаў гледачоў запоўнілі былі вуліцы места й балконы дамоў. Беларускую групу рэпрэзэнтавала ў парадзе дэлегацыя із сьцягам — сьцяганоша й дзьве дзяўчыны ў прыгожай нацыянальнай вопратцы. І яны, і ўсе нацыянальныя дэлегацыі із сваймі рознакалёрнымі сьцягамі й мазаікай нацыянальных вопраткаў выклікалі буру воплескаў гледачоў. На заканчэньне згаданае выстаўкі, якая адбывалася ў часе ад 6-га да 13-га чырвеня г. г. у Вініпэгу, управа выстаўкі была запрасіла прадстаўнікоў колькіх нацыянальных групаў выступіць на супольным міжнацыянальным канцэрце, які быў наладжаны ў рамках „All Nations Day" (Дню Усіх Нацыяў), 12-га чырвеня. Канцэрт гэты складаўся з танцаў і песьняў розных народаў. Беларуская група належна рэпрэзэнтавала на ім наш народ чароўнымі беларускімі песьнямі. Ведамыя й канадыйскаму беларускаму грамадзтву й шырокім колам чужых браты Радчанкі — тэнар Міхась і акардыяністы Аляксандар нязвычайна прыгожа выканалі колькі беларускіх песьняў. Асабліва падабаўся тысячам слухачоў рэдкі паводле сілы й чысьціні голас Міхася Радчанкі, які яшчэ раз уславіў быў сваймі песьнямі імя роднае Беларусі.

**І ПАПЛЫЛІ РОДНЫЯ МЭЛЁДЫІ...**

24.5. г. г. ад 7.30 да 8.30 гадз. аўстралійскае радыё й спалучаныя ізь ім радыёстанцыі ізноў перадавалі на кароткіх хвалях весткі аб Беларусі й беларускія песьні. Дыктарам на галоўнай станцыі быў і гэтым разам вядомы ўжо нам прыяцель Беларусі — сп. Р. Гойдэль.

Ён пачаў перадачу словамі: „А цяпер гадзіна беларускіх песьняў. Але спачатку падамо вам колькі вестак пра Беларусь. Гэта край, які знаходзіцца між Польшчай, Украінай і Расеяй. Жыхароў ён мае 18 мільёнаў. Праваслаўных каля 80% і каля 20% каталікаў. Гэта вельмі пабожны, ціхі, гасьцінны й сумленны народ. Прырода Беларусі вельмі багатая, асабліва шмат там вялікіх лясоў-пушчаў. Да 18 ст. Беларусь мела іншы назоў, яна звалася Вялікім Князьтвам Літоўскім зь Вялікімі Князямі Вітаўтам, Гедымінам ды інш. на чале. У 1918 г., 25-га Сакавіка, Усебеларускі Конгрэс у Менску прагаласіў Беларусь Незалежнай Дэмакратычнай Народнай Рэспублікай. Але ў 1920 г. прыйшла бальшавіцкая навала й у 1921 г. Беларусь была падзеленая між Расеяй і Польшчай. Беларускі Народ адказаў на гэта вялікім Слуцкім паўстаньнем, бароначы сваю Незалежнасьць супраць акупантаў. Ды й пасьля беларускі народ ня раз паўставаў як супраць бальшавікоў, так і супраць палякоў. Яшчэ пазьней у Беларусь прышлі нямецкія горды, супраць якіх беларусы таксама змагаліся парознаму, да партызанскае вайны улучна. Але бальшавіцкі неўзабаве ізноў занялі Беларусь, і шмат ейных патрыётаў пайшлі на выгнаньне, у эміграцыю, яшчэ-ж больш — сталіся ахвярамі бальшавікоў.

Беларускі народ вельмі музыкальны. Усе свае радасьці, а таксама сваю бяду й гора ён вылівае ў песьнях. Нядаўна ў Бэльгіі памёр слаўны беларускі кампазытар Сп. М. Равенскі, які апрацаваў быў шмат прыгожых беларускіх народных песьняў.

Цяпер вы й пачуеце некалькі зь іх.

І паплылі мілагучныя, родныя мэлёдыі ў сьвет. Кажная песьня паясьнялася ня толькі што да ейнага зьместу, але й мастацкага афармленьня. У канцы перадачы сп. Р. Гойдэль ізноў павышаным і ўсхваляваным голасам абвесьціў: „А цяпер вы пачуеце праяву рэлігійнае душы Беларускага народу, ягоны Царкоўны гімн „Магутны Божа". (словы паэткі Арсеньневай, музыка камп. М. Равенскага) ды — Беларускі Нацыянальны гімн.

Ці-ж трэба некаму гаварыць, што ўсе мы плакалі, як дзеці, слухаючы гэтыя нашыя духовыя скарбы ў далёкай Аўстраліі! Мы ўсе дзякуем Госпаду Богу за Ягоную Ласку да нас, а таксама вечна будзем удзячныя нашаму прыяцелю, аўстралійцу — сп. Р. Гойдэлю. Няхай Усемагутны ўзнагародзіць яго.

**Беларускі вэтэран**

**КАРАНАЦЫЯ АЛЬЖБЕТЫ II І БЕЛАРУСЫ**

БРАДФОРД. У вялікіх урачыстасьцях ангельскага народу ў сувязі з каранацыяй іх маладой каралевы Альжбеты II прынялі ўдзел і беларусы. Гэтак у Брадфордзе, 31-га травеня, а. Аляксандар Крыт адслужыў урачысты малебен пасьля Літургіі за здароўе й памыснасьць маладое каралевы. Прысутныя былі амаль усе нашы суродзічы, як мясцовыя, так і з бліжэйшых ваколіцаў.

МАНЧЭСТАР. Дзень Каранацыі тут быў адзначаны асабліва ўрачыста 2-га чырвеня. Саборную Багаслужбу, а пасьля малебен за здароўе каралевы адслужыў а. Аляксандар разам з казацкім сьвятаром а. Захарыем.

Пасьля Багаслужбы адбылася зборка ў мясцовым Беларускім Клюбе. Тут а. Аляксандар зьмястоўна высьвятліў значэньне каранацыі з рэлігійнага й грамадзкага пункту гледжаньня, а прыгожы хор а. Захарыя запраўды памастацку выканаў колькі беларускіх і казацкіх песьняў, а таксама было прадэклямавана некалькі вершаў. Шчырая падзяка шматлікіх удзельнікаў сьветчыла аб удачы імпрэзы й задаваленьні прысутных. Дзень гэты для беларусаў быў асаблівым і таму, што ў ягоных урачыстасьцях прынялі удзел ўсе бяз вынятку нашы суродзічы, ня гледзячы на свае палітычныя пагляды.

Дзень сьв. Еўфрасіньні Полацкае, Асьветніцы й Апякункі нашае, беларусы ў Манчэстэры адзначылі 7-га чырвеня. Пасьля ўрачыстае саборнае Багаслужбы а. а. Аляксандра й Захарыя, быў адслужаны ўрачысты малебен перад Абразом сьв. Еўфрасіньні. Перад малебнам а. Аляксандар глыбока крануў сэрцы вернікаў сваім чулым казаньнем аб жыцьці й значаньні для нас нашае слаўнае сьв. Асьветніцы й Апякункі. Усе малельнікі былі моцна ўдзячныя таксама а. Захарыю, які сваім хорам нязвычайна упрыгожыў нашую ўрачыстасьць, а таксама за ягоныя сымпатыі да братняга беларускага народу.

**Вернік БАПЦ.**

# Аб савецкіх сталоуках і гандлю

Жыцьце савецкага чалавека складаецца з шматлікіх клопатаў і турботаў, якія спадарожнічаюць ізь ім на працягу ўсёй яго працы і дзейнасьці. Кажны там знаходзіцца пад гіпнозам неадступных думак: „а каб ня здарылася чаго небудзь нядобрага".

Аднак неадвязная думка заўсёды й штодзённа мучыць шэрага савецкага чалавека, як бы прахарчаваць, адзець, абуць сваю сямью. Асабліва цяжка прыходзіцца тым, у каго есьць непрацаздольныя дзеці. Колькі клопату й трывогаў перажываюць бацькі, каб іх накарміць, адправіць у школу, або адвесьці ў садок, ясьлі, а увечары зноў сабраць да хаты. Такая ўжо доля савецкага чалавека, што каб пракарміцца й зьвесьці канцы з канцамі бацьком трэба працаваць абаім. Вось чаму заўсёды ў сямьі задаволеныя, калі каму ўдаецца дзе небудзь на працы пасілкавацца, або дастаць якіх прадуктаў. Тут працоўным і „прыходзіць" савецкая сыстэма з дапамогай, шляхам арганізацыі грамацкага харчаваньня, якое савецкая прапаганда лічыць сродкам для вызваленьня жанчыны ад кухні. Вось аб гэтых сацыялістычных сталоўках і „закусачных" у сталіцы Беларусі Менску мы й даведваемся з заметкі у газэце „Зьвязда" ад 14 траўня г. г.

„Зьвязда" адзначае, што сетка сталовак у Менску вельмі недастатковая, каб задаволіць патрэбы жыхарства сталіцы. „Некалькі чайных і закусачных разьмешчаных, напрыклад, на Камароуцы, ня могуць задаволіць попыт насельніцтва. Зусім мізэрная колькасьць сталовак і ў цэнтры гораду. Парадкі і санітарнае становішча ў сталоўках і закусачных жахлівыя. Бруд і неахайнасьць, хмары мухаў, грубасьць абслугоўваючага персаналу й ігнараваньне самых элементарных запатрабаваньняў наведвальнікау. „Для таго, каб паабедаць, прыходзіцца затраціць ня меньш паўтары гадзіны", піша ў сваей скарзе нейкі Мінчанка, „з кухні ў залі поўна дыму, тут можна сядзець гадзіну й ніхто не падыдзе да цябе. Калі ў вас няма часу — можаце ісьці, гавораць афіцыянткі". Ня лепш і ў дыятычнай сталоўцы, якая прызначана для харчаваньня хворых. У гэтую сталоуку ня так лёгка трапіць. Трэба прайсьці некалькі камісіяў, каб атрымаць права на нейкі час харчавацца ў дыятычнай сталоўцы. А між тым „асартымент блюдаў тут вельмі абмежаваны, каларыйнасьць іх нявысокая. Мэню стандартнае. Так сталічныя сталоўкі і закусачныя ствараюць умовы „шчасьлівага жыцьця савецкаму чалавеку".

Запраўдныя прычыны ганебнага стану грамацкага харчаваньня у краіне сацыялізму усім ведамыя. Ці можна ў Менску пашырыць сетку сталовак, калі існуючых гарадзкая ўлада ня можа забясьпечыць прадуктамі харчаваньня?

Здабыць адзежу й абутак другі, ня меньшы клопат савецкага чалавека. Для вырашэньня гэтага важнага сямейнага пытаньня недастаткова мець толькі грошы. Тут патрэбны спрыт, а галоўнае й найважнейшае — мець знаёмствы ў магазынах. Знаемыя з магазынаў заўсёды падкажуць калі й што будуць „даваць", або й прыхаваюць патрэбны тавар. Можа даўней існавалі бескарыснае знаёмства й прыязьнь. Савецкіх людзей цяпер вяжа узаемная падтрымка ў барацьбе за невясёлае існаваньне. Гэтая падтрымка мае надзвычайна многа розных формаў ды адценяў. Ею карыстаюцца асобы, зьвязаныя з савецкім гандлям і гаспадарчымі ўстановамі. Але ня кажны савецкі чалавек зможа навязаць і скарыстаць гэтую катэгорыю людзей. Есьць такія працы й становішчы, якімі не цікавяцца „работнікі савецкіх гандлевых і гаспадарчых прадпрыемстваў".

Самы буйны гандлёвы магазын у Менску „Універмаг", на Савецкай вуліцы, якая цяпер завецца Сталінскім праспэктам. У гэтым магазыне працуе 450 чалавек. Вось жа газэта „Зьвязда" за 30 траўня ў вельмі асьцярожнай форме адзначае, што ў магазыне не заўсёды есьць патрэбныя пакупніком тавары, а плян таваразвароту ў мінулым годзе ня выкананы, не выконваецца й сёлета. Напісаць проста ў газэце, што ў магазыне няма патрэбных тавараў — немагчыма, бо гэта будзя „паклёпам на заможнае й шчасьлівае жыцьце савецкіх людзей". Але каб былі ходкія гавары, то бязумоуна пляны таваразвароту ў магазынах перавыконваліся-б. Савецкі спажывец не разбэшчаны „капіталістычнымі" спосабамі гандлю. Ён не бачыу і не знае рэклямы, шырокага крэдыту й культурных адносін да пакупнікоў. Савецкія магазыны стварылі сабе толькі добрую рэкляму беднасьцю тавараў і ўбогасьцю асартымэнту, ды грубымі й нячулымі адносінамі да спажыўцоў. Вось прыклад. На складзе Універмагу зьявіліся пакрыўкі на падушкі. Гэтыя пакрыўкі ў ліку 400 штук выпісалі са складу ў магазын на продаж. Але да пакупніка дайшло толькі 100, а рэшту — 300 пакрыўкаў брыгадзір прадаўцоў Вінер раздала са складу сваім знаёмым. „Некатарыя работнікі груба парушаюць правілы савецкага гандлю. За кароткі час на работнікаў прылаўка паступіла больш 100 скаргау ад пакупнікоў. Прадаўцы хаваюць ходавыя тавары для сваіх знаемых і сяброу, садзейнічаюць спэкуляцыі, дапушчаюць растраты тавара-матарыяльных каштоунасьцяў", абвінавачвае парадкі ў Універмагу газэта „Зьвязда". Не абыходіцца без крадзежы й растратаў. Так у музычным магазыне устаноўленая растрата 26.000 рублеў.

Прычынамі такога ганебчага стану дзейнасьці прыкладнага Універсальнага магазыну газэта „Зьвязда бачыць „у недастатковай масава-растлумачальнай працы" сярод прадаўцоў, у адсутнасьці для іх дакладаў і лекцыяў, у малай колькасьці агітатараў, бо, бачыце, ў Універмагу „калякты ў агітатараў складаецца толькі з 12 чалавек", адзначае савецкая газэта.

Для людзей патрэбныя адзежа, абутак, харчавыя прадукты й іншыя тавары шырокага ўжытку, якія ў савецкіх магазынах адсутнічаюць. Прапаганда аб „багатым і шчаслівым жыцьці у краіне сацыялізму" стаіць папярок горла, гэты тавар стаўся адваротным для савецкага спажыўца. Ад лекцыяў і дакладаў прадаўцом магазынаў на паліцах тавараў ня прыбудзе. Таму такімі пустымі, фальшывымі і непераканальнымі довадамі гучаць прапановы „Зьвязды" аб лекцыях і дакладах.

**В. Крыніцкі.**